© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Сяргей Богдан

# Канчатковы Афганістан беларускай навукі

Стурейко, Степан, Медяник, Владимир. (2009) *Афганистан: этнополитический конфликт и проблема перемещенных лиц.* Минск: Тесей. 264 с.

Кніга Сцяпана Стурэйкі і дацэнта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Уладзіміра Мядзяніка выйшла ў выдавецтве «Тэсэй» у 2009 годзе. Аўтары дэкларуюць, што ў ёй «*на базе шырокага эмпірычнага матэрыялу даследуюцца асноўныя праблемы этнічнай гісторыі Афганістана на сучасным этапе, а таксама пытанні, звязаныя з працэсамі інтэграцыі афганскіх уцекачоў і ўнутрана перамешчаных асобаў*». Усё гэта яны даюць рады зрабіць усяго на 264 старонках. Прэтэнзія немалая: «*У цяперашні час актуальнае стварэнне асноваў і для беларускай афганістыкі, гэтаму, аўтары спадзяюцца, паслужыць прапанаваная работа*» (с. 7).

## Кніга пра ўсё

Аднак у выніку атрымалася кампіляцыя мноства крыніцаў (ад перадрукаванай статыстыкі да перказаў асноўных ідэяў мноства розных публікацыяў на тэму Афганістана і ўцекачоў ды сабраных – трэба меркаваць, аўтарамі – звестак анекдатычнага характару пра афганскіх уцекачоў у Беларусі). Кніга выразна распадаецца на некалькі кавалкаў – спачатку два эсэ пра этнапалітычны канфлікт і праблему вымушанага перамяшчэння. Далей – эсэ пра этнічныя канфлікты ў сучасным Афганістане, за якім ідзе раздзел аб праблемах унутрана перамешчаных асобаў. Чацвёрты раздзел вылучаны пад апісанне афганскіх уцекачоў у Пакістане ў 1979–2006 гадах. Пяты мае назву «Афганскія ўцекачы ў Еўропе».

Найпершая праблема – брак нейкай асноўнай ідэйнай лініі. Не ясна, пра што кніга ўвогуле. Пра ўцекачоў ці пра этнічны канфлікт? Бо абедзве гэтыя тэмы існуюць у рамках кніжкі аўтаномна і раўнапраўна. Урэшце атрымліваецца, што кніжка «пра ўсё». Тое і не дзіва, бо аўтары

закідаюць іншым даследнікам якраз тэматычную абмежаванасць: «*Сярод даследаванняў, прысвечаных Афганістану, большасць адлюстроўвае толькі паасобныя бакі афганскай эканомікі, палітыкі культуры*» (с. 60).

Вельмі дзіўна выглядае спроба выдаць ўнутрыафганскі канфлікт, што пачаўся пры канцы 1970-х, за этнапалітычны/этнасацыяльны/этнічны. Калі б Стурэйка з Мядзянікам давялі этнічны характар падзеяў – адкрыццё было б сапраўды гучнае. Аднак не давялі. У кнізе старонка за старонкаю цытуюцца меркаванні розных аўтараў пра тое, што канфлікт не этнічны, але гэта не замінае даследнікам спакойна зрабіць потым выснову пра яго галоўным чынам этнічны змест. Вядома, некаторыя аўтары (як то Коргун, 2004) прызнаюць важную ролю гэтага чынніка, але аніяк не «этнічнасць» канфлікту.

Сцяпан Стурэйка і Уладзімір Мядзянік увогуле разважаюць выключна ў катэгорыях супрацьстаяння этнасаў (народнасцяў) ды толькі неахвотна і мімаходзь згадваюць рэлігійныя і племянныя супярэчнасці, ігнаруючы ўплыў канфліктаў сацыяльных, расавых (паміж еўрапеоідамі і мангалоідамі), паміж качавым і аселым насельніцтвам, між лакальнымі супольнасцямі ды зямляцтвамі і ўрэшце проста побытавых. Што казаць, калі нават звычайныя амбіцыі ўзбекскага генерала Абдурашыда Дустума, скіраваныя выключна на тое, каб трымаць пад кантролем рэгіён вакол Мазары-Шарыфа, выдаюцца за «сепаратызм» (с. 93).

Між тым, усе факты, у тым ліку згаданыя аўтарамі, – асаблівасці кааліцыяў падчас грамадзянскай вайны, міжэтнічныя шлюбы і г. д. – сведчаць супраць асноўнай тэзы. Дый самі яны падрабязна разбіраюць унутрыпуштунскае варагаванне паміж *дурані* і *гільзаямі* ды цытуюць цалкам разумную думку Султана Акімбекава (у дачыненні да 1980-х – пачатку 1990-х): *«У арганізацыйным сэнсе нацменшасці міжсобку і ў дачыненні да пуштунаў выступаюць як асобныя «плямёны»* (с. 103). На меркаванне таго самага аўтара на пачатак 1990-х гг.: *«Шмат якія пуштунскія плямёны фактычна салідарызаваліся з нацыянальнымі і рэлігійнымі меншасцямі Афганістана ў барацьбе за лакальныя інтарэсы ў супрацьвагу дзяржаўным»* (с. 99–100). І далей у кнізе прысутнічаюць сцвярджэнні, якія пляжаць «этнічную» ідэю працы: *«Існуе меркаванне, што пуштунскія плямёны (асабліва перыферыйныя)* [падкрэслім ужыванне слова «плямёны», замест звыклай для аўтараў этнічнай катэгорыі «пуштуны». – ***С. Б.***] *маюць праталібскія настроі. На пэўным адрэзку часу гэта сапраўды было так. Аднак праз пэўны час пасля сыходу талібаў з вялікаю доляй упэўненасці можна сцвярджаць, што яны адстойваюць у значнай ступені інтарэсы свайго племені як самай простай і надзейнай формы самаідэнтыфікацыі»* (с. 103).

Ігнаруецца і тое, што ў сацыяльна-эканамічным ды культурным аспекце этнасы і плямёны Афганістана надта адрозніваюцца. У кнізе

ў прынцыпе няма выкладу структуры і асаблівасцяў ладу жыцця розных этнасаў, як няма і тлумачэння суадносінаў кланаў і плямёнаў. То бок, атрымліваецца, не істотна, што пуштуны і белуджы захоўваюць племянны лад, а таджыкі ад яго даўно адышлі. Не важна, што ў адрозненне ад суніцкай большасці Афганістана хазарэйцы – шыіты і пераследуюцца менавіта паводле гэтай прыкметы ды яшчэ паводле расавай, бо яны – выразныя мангалоіды, у той час як пуштуны – еўрапеоіды. Усё гэта застаецца па-за межамі кнігі. Дарэчы, здаецца, для піянераў айчыннай афганістыкі не ясна, што паміж афганскімі шыітамі ды хазарэйцамі можна амаль ставіць знак тоеснасці, то бок іншых шыітаў апроч хазарэйцаў там амаль няма (с. 88). Затое аўтары бяздоказна і без спасылак сцвярджаюць: «*Этнічныя канфлікты працінаюць усю гісторыю Афганістана*» (с. 58).

Кніга ўнікае разгляду не толькі этнічных канфліктаў, але нават і самога пуштунскага нацыяналізму. Прыкладам, сцвярджаецца: «*Пры разглядзе гісторыі праяўлення пуштунскага субнацыяналізму* [яшчэ адзін панятак без азначэння, як і этнічная/нацыянальная меншасць ды г. д. – ***С. Б.***] *можна вылучыць прынамсі дзве лініі супрацьстаяння: па-першае, канфлікт цэнтральнай адміністрацыі ды перыферыйных пуштунскіх раёнаў* [цікавае сцвярджэнне на тле навязлівага прасоўвання тэзы пра дамінаванне пуштунаў – адзіных і маналітных у сваёй «пуштунскасці» – у афганскай дзяржаве. – ***С. Б.***]; *па-другое, дастаткова працяглая спрэчка аб агульнадзяржаўным дамінаванні плямёнаў гільзаі і дурані, якая з гэтай прычыны набыла рысы традыцыі*» (с. 101).

Вось гэтак проста выкідаецца трэцяя рыса, датычная ірэдэнтызму ды імкнення да стварэння адзінага Пуштуністана з удзелам пуштунаў, што апынуліся ў межах Пакістана. Сам гэты матыў аўтарам знаёмы, бо яны згадваюць пра яго як праблему афганска-пакістанскіх стасункаў, аднак дзеля таго што кніга ёсць толькі зборам цытатаў, аўтары, відаць, не наважыліся аспрэчыць меркаванні іншых даследнікаў.

Не нашмат лепей выглядае частка кнігі, прысвечаная ўцекачам і ўнутрана перамешчаным асобам (УПА). Колькі табліцаў узятыя з матэрыялаў міжнародных арганізацыяў і нацыянальных органаў, аднак нават яны амаль не аналізуюцца. Адсутнічае сістэматызаванае апісанне табараў уцекачоў, юрыдычных і фактычных умоваў знаходжання большасці з іх у Пакістане ды Іране. Замахваючыся на аналіз праблемы як выніку «этнапалітычнага канфлікту», аўтары раптам абвяшчаюць, што не збіраюцца дзяліць уцекачоў і УПА паводле этнасаў, маўляў, усе яны – афганцы (с. 192–193). Застаецца толькі спытаць, навошта тады прыплятаць сюды этнічны канфлікт?

Асобна варта зазначыць, што частка кнігі, прысвечаная ўцекачам і перамешчаным асобам, далей за апісанне, цытаванні ды агульныя высновы не ідзе. Часам увогуле не ясна, што аўтары ўзялі з дакументаў ААН, а што ёсць вынікам іх аналізу

(напрыклад на с. 131–132, 144 ды інш.). Раздзел пра афганскіх уцекачоў у Беларусі наагул нагадвае збор баек пра афганцаў. Бяздоказна і без спасылак паведамляецца, што большая частка афганскіх уцекачоў прыбыла ў Беларусь у 1980-я гады «з пачаткам ваеннай аперацыі СССР у Афганістане» (с. 222). І гэта больш чым сумнеўна. На той час яны, відавочна, не былі ўцекачамі, а прыязджалі вучыцца ды стажыравацца. Як уцекачы на пачатку 1980-х прыбылі толькі прадстаўнікі іранскай партыі «Тудэ» (вялікая частка з іх праз Афганістан, дарэчы) і нешматлікія прадстаўнікі іншых краінаў, якіх КДБ хавала ў БССР. Сярод іх маглі быць афганцы, але іх было няшмат.

Вядома, студэнты маглі застацца і зрабіцца ўцекачамі ў 1990-я, аднак пра гэта ў кніжцы ані слова няма. Як і пра этнічны склад афганцаў у Беларусі, дынаміку іх перамяшчэння на Захад, стаўленне беларускіх уладаў, пра канфлікты паміж markrознымі абшчынамі/групоўкамі і г. д. Між тым, менавіта гэтая тэма і магла б выратаваць кнігу пры недакладнасці ва ўласна афганскіх аспектах, спрэчнасці ў выкладзе афганскай гісторыі ды палітыкі і павярхоўым разглядзе пытанняў уцякацтва ды ўнутранага перамяшчэння.

## У стылі Герадота

Кніга складаецца пераважна з пераказу адшуканых аўтарамі думак іншых людзей ды нанізвання іх без асаблівага ўмяшання, таму часам побач стаяць процілеглыя сцвярджэнні, ніяк не вытлумачаныя і нічым не падзеленыя. Прыкладам можа быць с. 67, дзе спачатку ідзецца пра рэпрэсіі супраць нацменаў з боку хальскіцкай фракцыі Народна-дэмакратычнай партыі Афганістана (НДПА), а ў наступным абзацы гаворыцца пра ўвядзенне выкладання на мовах меншасцяў, павелічэнне колькасці радыёпраграмаў на гэтых мовах. Разам з тым, часам думкі аўтараў цяжка вылучыць з масіву цытавання, што ставіць усю кнігу на мяжу плагіяту. Больш за тое, ёсць, напрыклад, тры старонкі, перапісаныя фактычна з адной крыніцы (с. 148–151).

Спецыфічнае крытычнае мысленне прыводзіць да таго, што аўтары то накідваюцца на, магчыма, найлепшую работу савецкай афганістыкі (Давыдов, 1993) за «*абсалютызацыю эканамічных перадумоваў*» (с. 61), то кідаюцца ў апалагетыку.

Напрыклад, на с. 140 пасля пераліку праблемаў гвалтоўнага выдання жанчын замуж, «*прычым у шматлікіх выпадках замуж аддаюцца дзяўчынкі, маладзейшыя за 15 гадоў*», а «*дзяўчынкі, пачынаючы з 6 гадоў, могуць быць прададзеныя замуж*», аўтары выказваюць дзіўнае меркаванне. Аказваецца, «*гэта можна патлумачыць толькі зломам абарончых механізмаў грамадства, бо гэткія звычаі не практыкаваліся ў Афганістане да вайны, яны не адпавядаюць ісламскім і пуштунскім нормам паводзінаў*» (с. 140). Давядзецца іх расчараваць: шматлікія такія выпадкі ў Афганістане і сумежных краінах у мінулым мала таго што

зафіксаваныя (і не пярэчаць звычаёвай культуры), дык яшчэ не пярэчаць і шарыяту. Прынамсі, заўжды і вельмі лёгка можна знайсці пэўную версію шарыяту, якая апраўдае такое стаўленне да жанчын.

Жанравая і стылёвая няроўнасць крыніцаў, якія выкарыстоўваюць аўтары, спрычыняецца да таго, што пасярод тэксту аб палітычных падзеях можа стаяць смачны кавалак пра тое, што байцы генерала Дустума вылучаліся «*нязвыкла даўгімі валасамі*» і насілі «*штаны да сярэдзіны лытак*» ды «*былі вядомыя сваёй лютасцю*» (с. 71). Або сярод сухога апісання гаспадарчых праблемаў табараў уцекачоў паведамляецца, што афганскія мужчыны і падлеткі ядуць першымі і колькі хочуць, а што недаядуць або адкладуць убок – «*даядаюць жанчыны*». Меню канкрэтызуецца, паведамляюцца каштоўныя падрабязнасці – «*мучныя бліны падаюцца з агароднінай і мясам, прыгатаваным у вострым соўсе*», а вось гарбату «*багата падсалоджваюць цукрам або падаюць з цукеркамі*» (с. 173–174). Пасля гэтага ў кнізе адбываецца імгненны пераход да праблемаў водазабеспячэння. Такая манера нагадвае антычныя творы ў стылі Герадота, але ніяк не сучасныя навуковыя працы.

Цікавыя некаторыя класіфікацыі. Высвятляецца, што мінныя палі – гэта «*з'явы экалагічнага асяроддзя*» (с. 152), побач са стыхійнымі бедствамі. Традыцыйныя гліняныя хаткі афганцаў аўтары назвалі «*традыцыйнымі "гразевымі" дамамі*» (с. 174). Адным словам, відавочны недакладны пераклад з ангельскай мовы.

## Кніга памылак

Наступная праблема – у наяўнасці, нават пры павярхоўным разглядзе, неверагоднай колькасці памылак і недакладнасцяў, перш за ўсё пры апісанні афганскіх рэаліяў. Ужо ва ўводзінах аўтары памылкова лічаць, што Афганістан мяжуе з Індыяй, і «забываюцца» пра яго мяжу з Кітаем. Затое суправаджаецца ўсё гучнымі словамі пра геапалітычныя інтарэсы Беларусі на Сярэднім Усходзе і ў Цэнтральнай Азіі. Беларусь сапраўды спрабавала нешта атрымаць ад аднаўлення Афганістана, у прыватнасці праз ангажаванне ў іранскія праграмы дапамогі ў 2002 годзе, аднак аўтары пра гэтую адзіную сур'ёзную спробу беларускага пранікнення не пішуць.

Сапраўдны рэкорд у плане памылак ставіць с. 75 – іх там ажно шэсць. Не існуе і ніколі не існавала правінцыяў «*Мазар, Гайратон, Шебирган и Моймана*» (толькі адно слова з усяго шэрагу можна прызнаць слушна напісаным). Ёсць гарады Мазары-Шарыф, Хайратон і Мэйманэ, некаторыя з якіх ёсць цэнтрамі правінцыяў (дарэчы, тая самая памылка на с. 119). Таксама няма правінцыі «Багдыз», а толькі «Бадгіс» (с. 75, 120, 121 і інш.), няма «Джабаль Сарая», а толькі «Джабаль-Сірадж» (с. 75). Племя барксзай зазвычай называлася ў рускай мове баракзай (с. 106 ды інш.). Пустынны рэгіён Рэгістан названы «Рэджыстанам» (с. 137 і далей). Партыя хазарэйцаў называлася «Вахдат» (адзінства) – аднак у кнізе ў розных

месцах яе завуць па-рознаму – і «Вахдаці-ісламі», і «Хізбі-Вахдат» (с. 72–73) – не тлумачачы нават, што ідзецца пра тое самае.

Пасля такіх недакладнасцяў перастаюць здзіўляць іншыя спрэчныя моманты. Яскравым прыкладам можа быць табліца на с. 70. Паводле яе, два з васьмі лідараў афганскага супраціву ў 1980-х былі арабамі. Гэтак Стурэйка і Мядзянік акрэсліваюць Маджадзідзі ды Гайлані (пазначаны таксама як Гілані). У выпадку з Гайлані для гэтага яшчэ можна знайсці пэўныя падставы, дарма што наяўнасць арабскай ідэнтычнасці ў яго выпадку таксама сумнеўная. Але Маджадзідзі, праўдападобна, быў залічаны ў арабы, бо таксама «сэед» – нашчадак прарока Мухамада. Аднак у сучасных рэаліях рэгіёну тытул «сэед» не азначае абсалютна нічога, апроч жадання чалавека лічыцца нашчадкам прарока. І такі чалавек можа быць любой нацыянальнасці і звычайна не мае арабскай ідэнтычнасці. Нават калі нехта з «сэедаў» прызнае сваё аддаленае арабскае паходжанне, дык паводле сваёй ідэнтычнасці ён усё адно застаецца іранцам/афганцам і г. д.

Бянтэжыць і тое, што апроч пазнакі «навуковае выданне» кніга мае іншыя вонкавыя прыкметы навуковасці: два рэцэнзенты (адзін доктар гістарычных навук, прафесар Вячаслаў Мянькоўскі, другі — кандыдат гістарычных навук, дацэнт Юрый Блашкоў) і нават навуковы рэдактар (кандыдат гістарычных навук, дацэнт Тадэвуш Навагродскі). Падкрэслю, што недахопы кнігі бачныя не толькі абазнаным у афганскай праблематыцы людзям, праблема відаць на розных узроўнях: канцэпцыя, метадалогія, структура, аргументацыя. У такой сітуацыі наяўнасць рэцэнзентаў і навуковага рэдактара з высокім статусам можа сведчыць пра сістэмны характар праблемы.

**Літаратура, якая згадваецца ў рэцэнзіі**

1. Давыдов, Александр (1993). *Афганистан: Войны могло не быть. Крестьянство и реформы*. Москва: Наука.
2. Коргун, Виктор (2004). *История Афганистана. XX век*. Москва: ИВ РАН.